РЭХА

## Адпрацоўкі за падарункі

Дэлегатам Другога Усебеларускага народнага сходу ад Пінска прыйдзецца адрабляць атрыманыя напярэдадні яго каштоўныя падарункі — кухонныя машыны і дывановыя вырабы.

У гарвыканкаме склалі графік іх выступленняў у працоўных калектывах і дзяржаўных СМІ ў падтрымку палітыкі Аляксандра Лукашэнкі. Дэлегаты абавязаны прадставіць мясцовым уладам даведку аб правядзенні растлумачальнай работы з выбаршчыкамі, завераную кіраўніцтвам прадпрыемства або ўстановы, дзе адбудзецца такая сустрэча, а таксама газетны артыкул.

**Цімох ЛІСІЦКІ**

## На ўцеху картынгістам

На тэрыторыі спартыўна-аздараўленчага комплексу «Алімпійскі» ў Мінску праз месяц павінен быць пабудаваны картынг-хол.

Кіраўніцтва спартыўна-аздараўленчага комплексу «Алімпійскі» і беларуска-літоўскае сумеснае прадпрыемства «Лейшэр» гатовыя падпісаць сумесны дагавор аб будаўніцтве на тэрыторыі САК «Алімпійскі», каля Палаца воднага спорту, картынг-хола. Згодна з праектам, ён уяўляе дзве пляцоўкі — крытую і закрытую — для заняткаў картынгам.

Абсталяванне, у ліку якога сучасныя картынгі «Хонда», і будаўнічыя працы бярэ на сябе СП «Лейшэр». Беларускі бок узамен прадастаўленай плошчы атрымлівае 10% прыбытку праекта. Аб'ём інвестыцыяў СП «Лейшэр» складзе 200 тысяч долараў ЗША.

**Юрый ФЁДАРАЎ**

СУВЯЗЬ

## З Гродна да ўсяго свету

З 15 чэрвеня ў Гродне і вобласці пачалі дзейнічаць універсальныя тэлефонныя карткі, з дапамогай якіх можна звязацца з любой краінай свету.

Пад новыя карткі ў Гродне ўжо пераабсталяваныя 80 тэлефонных апаратаў. Канчатковае ўвядзенне навінкі запланаванае на пачатак наступнага тыдня. Новыя пластыкавыя карткі выпускаюцца чатырох наміналаў: 20, 100, 500 і 750 тарыфных адзінак. Картка ў 20 тарыфаў дазваляе зрабіць унутрыгарадскі званок альбо званок па краіне, з карткай у 100 тарыфаў можна размаўляць з краінамі СНД і Балтыі, карткі ў 500 і 750 тарыфаў могуць выкарыстоўвацца для размоваў з любой краінай свету. Напрыклад, з дапамогай карткі ў 500 тарыфаў можна больш за восем гадзінаў размаўляць па горадзе альбо 7 хвілінаў з Еўропай, ці 2 хвіліны з ЗША.

Новыя тэлефонныя карткі павінны зацікавіць калекцыянераў. На адваротным яе баку размешчаныя выявы з серыі «Сучасная архітэктура Беларусі», «Гістарычныя помнікі Беларусі», «Краявіды Беларусі», «Прырода — буйным планам».

**Павел МАЖЭЙКА**



## Знайсці Максіма

11 чэрвеня ў панядзелак знік Саханчук Максім, студэнт 3 курса Пінскага інстытута кіравання. Саханчук Максім з'яўляецца старшынёй суполкі ЗБС з г.Пінска. Апошні раз Максіма бачыла старшыня ЗБС Крысціна Сідун. Яна развіталася з ім 11 чэрвеня на станцыі метро Якуба Коласа ў раёне 18.00. Пры сабе Максім меў стос «Студэнцкай газеты», якую ён меў намер завесці ў горад Пінск для распаўсюджання сярод студэнтаў.

Бацькі Саханчука сцвярджаюць, што дамоў іх сын не з'явіўся. Бацькі абтэлефанавалі ўсіх сваякоў, сяброў і знаёмых Максіма. Патэлефанавалі ў тым ліку і Крысціне Сідун. Але ніхто з панядзелка Максіма не бачыў і не ведае, дзе ён знаходзіцца.

Бацькі Максіма падалі заяву на вышук у органы міліцыі.

Варта нагадаць, што месяц таму суполка ЗБС горада Пінска была падвергнутая ціску з боку спецслужбаў – сябраў ЗБС (у тым ліку і Максіма Саханчука) выклікалі ў КДБ і бралі распіскі, што яны не будуць займацца грамадскай дзейнасцю, праводзілі выхаваўчыя гутаркі.

**Максім Саханчук, калі ты прачытаеш гэтую аб'яву, адгукніся!**

**Праваабарончы цэнтр «Вясна»**

## Бульбу — на віно

16 чэрвеня Малдова і Беларусь падпісалі пагадненне аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве на 2001-2002 гады.

Са словаў віцэ-прэм'ера беларускага ўрада Аляксандра Папкова, аб'ёмы тавараабарачэння паміж дзвюма краінамі могуць павялічыцца да 120 мільёнаў долараў на год. Летась яны склалі ўсяго 16 мільёнаў долараў.

Беларусь мае намер прадаць у Малдову 1.000 трактараў, палову з іх – да 1 жніўня. Апрача таго, плануецца арганізаваць пастаўкі іншай сельскагаспадарчай тэхнікі, бытавыя прыборы, насенневую бульбу.

Малдова, са свайго боку, завязе ў наступным годзе да нас на 20 мільёнаў долараў насенневай кукурузы і гародніны, 2 мільёны дэкалітраў віна і яшчэ 800 тысяч дэкалітраў шампанматэрыялаў. Увозіць на тэрыторыю Беларусі віно змогуць толькі дзяржаўныя прадпрыемствы.

**Алесь КАТОВІЧ**

## Калі топішся - за нос ухопішся

Гляджу па тэлебачанні сустрэчу самага даўняга кандыдата ў прэзідэнты Лукашэнкі А.Р. з рабочымі Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання. Адміністрацыя вывела людзей на вуліцу, паставіла ў карэ некалькімі шнурамі. Атрымалася нешта накшталт местачковай плошчы, тесна абкружанай маленькімі сумнымі дамкамі. Пасярод яе, замест помніка, груваcціцца таварыш Лукашэнка. Ён аўтарытэтна дзеліцца з высокімі шэрымі хмарамі ўласнымі развагамі і водзіць рукамі туды-сюды, быццам дае нырца ў возеры ў Драздах. Слухаць у тысячны раз ягоныя развагі моташна, таму народ прыгнечана маўчыць і толькі бліскае, нагнуўшы галовы, зацятымі позіркамі на багатыя чаравікі і штаны выступоўца. Але вось абавязковая праграма вычарпаная, прыйшоў час гнеўна выкрываць ворагаў, і Лукашэнка сокалам падае з-пад аблокаў на зямлю ды хіжа падступае да бліжэйшага шнура. Слухачы ўмомант падаюцца назад, заплюшчваюцца і прыціскаюцца адно да аднаго, каб годна вытрымаць бурапенны націск класавай нянавісці, ды не ўпасці часам на калені. Але замест гармат і фугасаў таварыш Лукашэнка абыходзіцца лагодным таварышэнкаўскім стылем. Тлумачыць оптыка-механікам, як малым, што супраць яго моцна інтрыгуюць у Маскве. І асабліва на іхніх тэлебачаннях. Але яму вядома, хто гэта арганізуе: «Эта ўсё кручканосыя». Пры гэтых словах таварыш Лукашэнка мацае свой уласны нос неакласічнай формы. Камера сарамліва адварочваецца...

Давайце глянем, што ў выніку? Адно з лепшых беларускіх прадпрыемстваў, самыя высокаінтэлектуальныя кадры, замежная тэхналогія. Прадукцыя ідзе на экспарт, кожная рабочая хвіліна на вагу долара. Людзі кідаюць усе справы, выходзяць пасярод белага дня паслухаць разумнага чалавека, строяцца ў роўненькія шнуры, натапырваюць вушы. Думаюць, пачне шчыра каяцца, прасіць прабачэння за тое, што сем гадоў гуляў у хакей ды сварыўся з людзямі. А ён ім выдаў: у Маскве супраць яго, маўляў, «кручканосыя» вядуць рэй. Якія такія «кручканосыя»? Цыганы, габрэі, французы, палякі, немцы, каўказцы альбо грэкі? А калі нават і ўсе разам, дык што тут дзіўнага? У нас (нашто далёка хадзіць) супраць таварыша Лукашэнкі сёння ўжо не толькі кручканосыя, але і праманосыя, і бульбаносыя, і кірпаносыя, і крываносыя, і шыроканосыя, і вузканосыя, і каротканосыя, і даўганосыя. Дзіва што і да Масквы ўжо гэтая мода дакацілася?

Але ж, кажуць некаторыя калегі, мабыць, таварыш Лукашэнка хацеў падкрэсліць, што гэта атрутныя сіяністы робяць гнілыя захады, каб падмачыць славянскую ідэю. А пазнаць іх можна толькі па кручкаватых насах. Калі так, дык мусім перш са сваімі насамі разабрацца. Каб дужа кепскія не зашываліся ва ўладу, а выпраўляліся па эталоне. Трэба зрабіць з металу дасканалы ўзор для паказу, ды памераць насы сабе і ўсім сваім акружэнцам, пачынаючы з самых верных змагароў за славянскую ідэю, з чыстакроўных русічаў. Напрыклад, з таварышаў Мясніковіча, Замяталіна, Янчэўскага, Якубовіча...

**Аляксандар ДУБРАВІН**

ФОТАФАКТ



Фота IREX/ProMedia

Мой родны кут

## Неафіцыйны Дзень прадпрымальніцтва

15 чэрвеня ў краіне адзначалася неафіцыйнае свята — Дзень адраджэння прадпрымальніцтва Беларусі.

Ідэя яго заснавання з'явілася 10 гадоў таму пры стварэнні Саюза прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь. У 1993 годзе быў падрыхтаваны праект рашэння Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі, у адпаведнасці з якім свята атрымала афіцыйны статус, аднак існуючыя на той час грамадскія арганізацыі — Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя, Саюз прадпрымальнікаў і Саюз прадпрымальнікаў і арандатараў — не змаглі дамовіцца па даце. Рашэнне было адкладзенае, а пасля змены кіраўніцтва Вярхоўнага Савета, прэзідэнцкіх выбараў 1994 года на яго проста забыліся.

На думку прэзідэнта Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і работадаўцаў Уладзіміра Карагіна, за 10 гадоў удалося дамагчыся рэзкага змянення грамадскай думкі ў дачыненні да прадпрымальнікаў. «Зараз вялікая колькасць бацькоў хочуць, каб іх дзеці мелі магчымасць праявіць сваю ініцыятыву, зараз па-іншаму ўспрымаецца слова «прадпрымальнік», хаця прапаганда заўсёды прыніжала ролю прадпрымальніцкага руху, забываючы пра тое, што бізнесмен выступае ў чатырох сацыяльных якасцях: работадаўца, вытворцы тавараў і паслугаў, уласніка і падаткаплацельшчыка», — сказаў У.Карагін.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## Кніга пра беларускія турмы

У Маскве накладам у тысячу асобнікаў выйшла з друку кніга «Турмы Беларусі: 1929-1935».

Гэта — першая кніга з серыі «Гісторыя беларускіх савецкіх турмаў». Яна напісаная для шырокага кола чытачоў і ўяўляе сабою адну з нешматлікіх спробаў поўнага даследавання савецкай рэпрэсіўнай сістэмы. Асаблівую цікавасць чытачоў будуць мець апісаныя былымі вязнямі асаблівасці быту зняволеных, звязаныя з прыёмным аддзяленнем турмы, яе рэжымам, перадачамі, сустрэчамі, культурна-выхаваўчай працай, бальніцай, лазняй, камерай смерці, смяротнай карай, сацыялістычным крымінальным светам і пратэстамі. Асобны раздзел прысвечаны вахру (ваенізаванай ахове турмаў) і яе службам наглядальнікаў, вартавых і канваіраў.

Кніга аб'ёмам у 250 старонак завяршаецца раздзелам «Будзем памятаць іх пайменна» — спісам, у якім даюцца месцы пражывання герояў кнігі на момант яе напісання. Тут жа ўтрымліваецца слоўнік зладзейскага жаргону 20-х — пачатку 30-х гадоў і падборка фатаграфіяў вязняў.

Аўтар гэтай кнігі Андрэй Заерка плануе выпусціць некалькі кніжных серыяў, у ліку якіх — «Гісторыя рэпрэсіўных органаў БССР», «Беларусы на будоўлях ГУЛАГа», «Гісторыя знішчэння беларускага сялянства». Апрача таго, асобнымі кнігамі рыхтуюцца да выдання «Золата Беларусі», «Крывавая мяжа», «Растаптаная вера» і «Падрыўная дзейнасць савецкіх спецслужбаў у Заходняй Беларусі».

**Марат ГАРАВЫ**

## У чаканні мільярда

На 1 чэрвеня агульная сума запазычанасці па зарплаце ў Магілёўскай вобласці складала 1 мільярд 800 мільёнаў рублёў.

1 мільярд 200 мільёнаў рублёў даўгоў з гэтай сумы прыпалі на гаспадаркі аграпрамысловага комплексу.

Па словах першага намесніка старшыні аблвыканкама Мікалая Жука, за першыя два тыдні месяца даўгі перад работнікамі прамысловых прадпрыемстваў вобласці практычна ліквідаваныя, засталіся толькі ў сельскай гаспадарцы (на ўзроўні 1 мільярда рублёў).

Іх мяркуецца пагасіць да пачатку наступнага тыдня. Але пры гэтым Мікалай Жук заначыў, што адміністрацыйны рэсурс пагашэння даўгоў па зарплаце вычарпаны.

**Канстанцін УВАРАЎ**

АКЦЫІ

## Праспект Скарыны як каляндар

Малады Фронт распачаў у Мінску акцыю па зваротным адліку дзён, што засталіся да даты правядзення прэзідэнцкіх выбараў 9 верасня.

Маладафронтаўцы будуць нагадваць людзям пра набліжэнне гэтай важнай падзеі арыгінальным чынам. Сэнс акцыі заключаецца ў тым, што дамы па праспекце Францішка Скарыны і гарадскія тралейбусныя і аўтобусныя маршруты будуць аздабляцца разнастайнымі перадвыбарнымі ўлёткамі, прычым пад увагу сябраў МФ штодня будуць падпадаць дамы і грамадскі транспарт з нумарамі, адпаведнымі колькасці дзён, што застаюцца да выбараў.

Можна толькі ўявіць, як пільна цяпер будзе пільнаваць міліцыя будынкі на галоўным праспекце сталіцы. Цікава, ці атрымаецца ў маладафронтаўцаў (а гэта будзе зусім блізка пад выбары) захапіць гэтай акцыяй будынак КДБ?

**Кірэй МАНУЙЛА**

АДУКАЦЫЯ

## Моладзь без працы

Па статыстыцы, якую прывялі ў Камітэце па справах моладзі, 50% ад усіх беспрацоўных Беларусі складае моладзь – тыя, каму ад 16 да 30 гадоў. Адна з прычынаў – гэта выбар прафесіі, якая незапатрабаваная на рынку працы.

Разам з тым праведзеныя сацыялагічныя даследаванні сярод выпускнікоў школаў выявілі яшчэ дзве тэндэнцыі. Па-першае, на падлетка ў выбары прафесіі найбольшы ўплыў маюць ягоныя бацькі (так адказалі да 30% апытаных), якія не заўсёды маюць аб'ектыўны погляд на тое, што за спецыялісты сёння як след запатрабаваныя. А па-другое, навідавоку малая настроенасць выпускнікоў школаў на працоўныя спецыяльнасці. 47,6% апытаных скіраваныя на атрыманне вышэйшай адукацыі, 24,5% — на атрыманне сярэдняй спецыяльнай і толькі 10,4 % аддаюць перавагу прафесійна-тэхнічным вучэльням.

**Алена ЛАБАНАВА**

УЛАДА

## Пінская «вертыкаль» кантралюе падпіску

Новая пінская незалежная газета «Правінцыялка», два пілотныя нумары якой выйшлі ў траўні, сапсавалі дагэтуль спакойнае жыццё пінскім уладам.

Штодня яны цікавяцца ходам падпіскі на выданне і аказваюць ціск на работнікаў пошты, актыўна прапануючых насельніцтву на яго падпісацца. А нейкія маладыя людзі ў гальштуках праводзяць гутаркі з людзьмі прама ў аддзяленнях сувязі, запэўніваючы іх, што газета выходзіць усе роўна не будзе. Яны таксама бегаюць па горадзе і зрываюць з дошак аб'яваў каляровыя плакаты аб падпісцы на «Правінцыялку».

Дарэчы, улады забаранілі распаўсюджваць апошнія нават на пошце. Але пінчане, стомленыя ад цацанак-абяцанак дзяржаўных СМІ, усё роўна падпісваюцца, прычым, адразу на паўгоддзе. Шараговыя работнікі арганізацыяў і ўстановаў, у тым ліку органаў улады, якім новае выданне з праўдзівай інфармацыяй прыйшлося даспадобы, каб не мець непрыемнасцяў з боку мясцовай «вертыкалі» афармляюць падпіску на каго-небудзь са сваякоў, нават на малых.

**Цімох ЛІСІЦКІ**

# Чорны дзень памяці

## 22 чэрвеня Другая сусветная вайна абрынулася і на беларускія землі

*У савецкай гістарыяграфіі вайну назвалі Вялікай Айчыннай, рэгіянальна адмяжоўваючы гэтай назвай сябе ад іншых удзельнікаў таго пекла, вароты ў якое Гітлер і Сталін узгоднена расчынілі ў верасні 1939 года. У гэтае пекла былі ўцягнутыя 72 дзяржавы. Пад ружжо паставілі 110 мільёнаў чалавек. З іх загінулі 60 мільёнаў. Падлічаная пасля вайны колькасць параненых і скалечаных склала 90 мільёнаў. З агульнай лічбы забітых Савецкі Саюз страціў 30 мільёнаў чалавек, а Беларусь — 3, а ў межах 1941 года страты насельніцтва, па падліках сучасных даследчыкаў, сягаюць лічбы 4 мільёнаў.*

Ход вайны даследаваны мноствам ваенных спецыялістаў, школьная версія ў нас абавязковая для вывучэння, і таму кожны ведае, што да восені 1941 года была акупіраваная немцамі Беларусь, Літва, Латвія, вялізныя абшары Украіны і Расіі. Гэта не надта болей па часе, чым спатрэбілася германскай арміі для акупацыі Польшчы ўвосень 1939 года. Аднак СССР меў у 7 разоў большае насельніцтва, самую вялікую армію ў свеце і пераважаў гітлераўскую Германію па ўсіх асноўных відах узбраенняў.

Трагічны пачатак вайны ў нас раней любілі тлумачыць нечаканасцю нападу, гітлераўскім вераломствам. Сёння пра гэта ўжо маўчаць, бо пра маючае быць нашэсце Сталіну дакладалі з 7 розных замежных разведвальных і дыпламатычных крыніцаў. Не вытрымлівае крытыкі і маладаказальны тэзіс пра непадрыхтаванасць да вайны савецкага афіцэрства. Разгром Сталінам афіцэрскага корпусу адбыўся ў 1938 годзе, а пасля гэтага новастворапы афіцэрскі корпус удзельнічаў як мінімум у трох кампаніях – польскай, савецка-фінскай вайне і вайне з японцамі на Халкін-голе. У ваенных дзеяннях прымалі ўдзел усе роды войскаў, і сказаць, што СССР на чэрвень 1941 года паваяваў менш за немцаў, будзе няпраўдай. Розніца тая, што немцы ў сваіх захопах еўрапейскіх краінаў страцілі менш людзей. СССР толькі ў вайне за фінскія землі страціў каля паўмільёна салдатаў. Як ні шкада дзесяткі тысяч афіцэраў, якія былі вынішчаныя на сталінскі загад падчас рэпрэсіяў супраць арміі, трэба ўлічыць, што тыя афіцэры не вучыліся метадам абарончай вайны, а старэйшыя з іх не мелі іншага вопыту, апроч вопыту грамадзянскай. Прыкладам, вопыт удзелу Тухачэўскага ў вайне з палякамі ў 1920 годзе і падаўленні Кранштацкага мяцяжу ніяк не спатрэбіўся б летам 1941.

Не прынята ўзгадваць, што ў той самы час, калі ў красавіку-траўні Германія захапіла Данію, Нарвегію, Югаславію, Грэцыю, Бельгію, Люксембург і за 44 дні прымусіла да капітуляцыі Францыю, у гэты ж самы час сталінскі СССР захапіў Эстонію, Латвію, Літву і адняў сабе ад Румыніі Букавіну. Дарэчы, захоп Букавіны як пагроза асноўнаму нафтарынку Германіі, на думку даследчыкаў, і прымусіў Гітлера задумацца пра планы свайго хаўрусніка і аддаць загад пра падрыхтоўку плана «Барбароса».

Мноства даследнікаў лічаць, што Сталін рыхтаваўся да «вызвалення ад капіталізму» краінаў




Заходняй Еўропы, ваенныя дзеянні савецкай арміі планаваліся на ліпень 1941 года, і менавіта па гэтай прычыне Беластоцкі выступ быў запоўнены войскамі, якія не рабілі ніякіх абарончых умацаванняў. Аслеплены ўласнымі напалеонаўскімі планамі, Сталін не дапускаў думкі, што яго тут могуць перайграць. Для блізкага паходу рыхтаваліся, але найперш войскі НКВД, якіх у Заходняй Асобай акрузе было каля 150 тысяч. Беларусь магла стаць тылавой тэрыторыяй і, каб пазбегнуць магчымых з гледзішча Сталіна дыверсіяў, адсюль вычышчалі «ненадзейны элемент». Так, 19 чэрвеня 1941 года, за два дні да пачатку вайны, карныя органы НКУС правялі масавае высяленне з Беларусі ў межах 1941 года (разам з Беластоцкай вобласцю) дзеячаў і членаў некамуністычных палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў. За дзень было вывезена 22 тысячы чалавек. Па стандартах таго часу, акцыя патрабавала не менш за 500 таварных вагонаў і 30 цягнікоў. Пра лёс гэтых людзей мала што вядома.


Фота IREX/ProMedia

У гэтых адносінах Германія была менш саслабленай, бо не заганяла ў свае канцлагеры мільёны «кулакоў і міраедаў», сем'і «ворагаў народа» ды іншыя катэгорыі невінаватых. Палітычных вязняў – камуністы і сацыял-дэмакраты – было каля 100 тысяч.

Вайну першымі сустрэлі пагранічнікі і тыя мірныя грамадзяне, на якіх пасыпаліся нямецкія бомбы. Геразм кожнага асобнага пагранічніка, якому давялося 22-23 чэрвеня гінуць у няроўным баі, безумоўна заслугоўвае вечнай памяці і пашаны. Гэта былі пагранічнікі 86-га Аўгустоўскага, 87-га Ломжынскага, 88-га Шапятоўскага і 17-га Брэсцкага атрадаў. Пра тыя атрады, апроч Брэсцкага, мала хто памятае. Яны стаялі на тэрыторыі, якую ў 1944 годзе Сталін аддаў Польшчы, з чаго ўзнікла нейкая двухсэнсавасць – калі гэта польская тэрыторыя, дык што там рабілі ў даваенныя гады, а калі не польская, дык чаму падараваная? Пагадзіліся, што лепш не кранаць слізкую тэму і не згадваць пра гераізм сваіх і вываз у Сібір мясцовых! Па гэтай прычыне помнік пагранічнікам ставіцца не там, дзе ішлі першыя баі, а на пасляваеннай мяжы. Ёсць у гэтым нейкая непаважная да канкрэтных людзей непавага.

Сімвалам геранчнай абароны савецкіх межаў стала Брэсцкая крэпасць. Варта прыгадаць, што ў 1939 годзе гераічную абарону крэпасці трымалі салдаты польскага войска перад наступам немцаў, якія занялі Брэст насуперак дамове Сталіна з Гітлерам. Савецкія чыны ім пра гэта нагадалі, і немцы пакінулі Брэст нам. Але тая частка Брэсцкай крэпасці, якая была на левым беразе Дзвіны, аказалася пад немцамі. У Брэсце перад расстаннем хаўруснікаў быў савецка-нямецкі парад, на якім адбыўся памятны абмен сцягамі перамогі: немцы атрымалі для музейнага захавання – чырвоны савецкі, а Чырвоная армія атрымала чырвоны нацысцкі. І дзе, цікава было б даведацца, захоўваецца гэты памятны гітлераўскі падарунак?

У той час, як вялася гераічная абарона Брэсцкай крэпасці і 500 тысяч мабілізаваных беларусаў, адразу пайшлі на фронт, і народ паўставаў для адпору захопнікам, войскі НКУС вынішчалі зусім не дыверсантаў і парашутыстаў, як пра тое любілі расказваць у кнігах для дзяцей. 25 чэрвеня нкусаўскія карнікі ва ўрочышчы Цагельня каля Чэрвеня расстралялі некалькі тысяч палітвязняў, якіх прыгналі па магілёўскай шашы з мінскай турмы. У гэтыя ж дні, напярэдадні абароны Віцебска, у падвалах віцебскага аддзела НКУС былі расстраляныя каля 2.000 вязняў. У гэтыя ж дні, калі вораг захопліваў горад за горадам, 6 ліпеня ў Бярэзвіцкай турме (паблізу Глыбокага) савецкія ахоўнікі без суда расстралялі вязняў, а гэта былі калгаснікі, асуджаныя за дробны крадзеж на калгасных палях. Усе такія ахвяры сталінскага рэжыму таксама спісаныя на вайну. Толькі вось помніка ім няма, і не прыязджае маскоўскі патрыярх асвяціць крыж у памяць няшчасных. Бо ўсё ж загінуць у баі адно, а стаяць пад расстрэльнай куляй – іншыя боль і пакута.

Беластоцкі выступ не затрымаў немцаў ні на адзін дзень. Ужо 23 чэрвеня рэшткі 3-й разбітай арміі фронта пакінулі Гродна, потым Кобрын, Бярозу, Пружаны, Баранавічы, а 26 чэрвеня ўсе тры арміі Заходняга фронта апынуліся ў катле паміж Беластокам і Мінскам.

Менавіта ў гэтым «катле» патрапіў у палон генерал Карбышаў, які потым сустрэў пакутніцкую смерць у канцлагеры. Разам з ім пайшлі ў палон 500.000 салдатаў і афіцэраў Заходняга фронта. А болей за 400 тысяч загінулі ў баях. Адзін мільён толькі за першыя тыдні вайны! Немцы не ведалі, што рабіць з такой колькасцю палонных. Іх пачалі марыць голадам. Падобны лагер быў у Лысвгурах, дзе ад голаду загінулі 22 тысячы палонных. Між тым, савецкі ўрад не падпісваў міжнародныя пагадненні па палонных. Адносіны да іх былі такія, што пасля вайны з 5 мільёнаў савецкіх салдатаў усе зведалі палон, 1,5 мільёна апынуліся паноўна ў палоне ў сібірскіх канцлагерах. З узгаданых 5 мільёнаў пятая частка прыпадае на два першыя месяцы баёў.

На фоне такіх стратаў асобныя выпадкі супраціву нічога не маглі змяніць. Яны сведчаць выключна пра асабістую мужнасць людзей. Брэсцкая крэпасць была ўся залітая крывёй яе абаронцаў. Калі ёй надалі статус мемарыяла, дык няўдалая задума ператварыла святыя руіны ў нешта недарэчнае і неадпаведнае сэнсу падзеяў лета 1941 года. Узвядзенне там цяпер царквы і самы вялікі звон, які туды прывязуць на цырымонію адзначэння 60-х угодкаў, яшчэ большая недарэчнасць. Гэта выкарыстанне чужога подзвігу ў мэтах пашырэння Рускай праваслаўнай царквы ў Беларусі. Калі падумаць – непавага да ахвяраў трагічнага 1941 года.

**Пётр КЛІМКОВІЧ**

## Ад міністра МУС чакаюць тлумачэнняў

Кіраўніцтва грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (ТБМ) накіравала генеральнаму пракурору Беларусі Віктару Шэйману і міністру ўнутраных справаў Уладзіміру Навумаву ліст, у якім выказвае пратэст адносна фактаў прыніжэння і выцяснення беларускай мовы з боку прадстаўнікоў праваахоўных органаў.

У лісце паведамляецца аб факце затрымання міліцыяй 29 траўня бягучага года групы літаратараў у мінскім парку імя Горкага. Яны былі затрыманыя на некаторы час пасля завяршэння працы XIII з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў. Высвятляючы ў міліцыі акалічнасці гэтага інцыдэнту, паказанні былі ўзятыя ў Лявона Баршчэўскага, Міхася Скоблы і Антаніны Хатэнка. Аднак, як зазначаецца ў лісце, «пры гэтым быў парушаны артыкул 172-2 КоАП Рэспублікі Беларусь», бо «пісьменнікам загадалі даваць паказанні на рускай мове, прымушаючы іх да гэтага пагрозамі».

Кіраўніцтва ТБМ лічыць, што падобныя дзеянні супрацоўнікаў аддзела ўнутраных справаў ствараюць абмежаванні і перашкоды ва ўжыванні дзяржаўнай беларускай мовы, а таксама сведчаць аб парушэнні Закона аб мовах, які патрабуе ад службовых асобаў валодання дзяржаўнай беларускай мовай у неабходным аб'ёме. Апрача таго, як зазначаецца ў лісце, шматлікія факты неразумення агульнаўжывальных словаў службовымі асобамі сведчаць пра тое, што чыноўнікі не валодаюць дзяржаўнай беларускай мовай у аб'ёме, неабходным для выканання сваіх абавязкаў. Такія факты кіраўніцтва ТБМ расцэньвае як «дэстабілізацыйныя», якія «адмоўна ўздзейнічаюць на гарманізацыю моўных узаемаадносінаў грамадзянаў, якія карыстаюцца беларускай і рускай мовамі».

Кіраўніцтва ТБМ лічыць неабходным правесці службовае расследаванне па фактах парушэння КоАП і Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь.

**БелаПАН**

## Кальварыя занепадае

Апошнім часам у Мінску ўзнікла пагроза страты помніка гісторыі і нацыянальнай памяці — старадаўніх Кальварыйскіх могілак. Гэта незвычайны цвінтар і ўнікальны мемарыял з 200-гадовай гісторыяй. Апроч помнікаў архітэктуры — неагатычнага касцёла і класіцыстычнай уваходнай брамы — тут знаходзіцца мноства капліцак і надмагільных помнікаў вядомых беларускіх шляхецкіх родаў: Вайніловічаў, Ваньковічаў, Луцкевічаў, Храпавіцкіх, Чачотаў. Многія з пахаваных тут шырока праславілі Беларусь: мастак Ян Дамель, паэт Янка Лучына, грамадска-палітычны дзеяч Вацлаў Іваноўскі і іншыя.

Некалькі гадоў таму гарадскія ўлады пасля 30-гадовага перапынку дазволілі тут пахаванні за грошы. Пры гэтым пачалі знішчацца старадаўнія помнікі і крыжы, якія маюць гістарычнае значэнне. У выніку мемарыялу пагражае знішчэнне.

24 чэрвеня а 16.00 Згуртаванне Беларускай Моладзі «Эўрапейскі шлях» запрашае сваіх аднадумцаў да сумеснага наведвання Кальварыйскіх могілак для азнаямлення з іх гісторыяй і сучасным станам. Збор — каля Брамы. Экскурсію па могілках правядуць вядомыя гісторыкі і краязнаўцы Мінска.

**BARC NEWS**

МАСТАЦТВА

## Фестываль мастацкай татуіроўкі

Гран-пры І Рэспубліканскага фестывалю мастацкай татуіроўкі *«Snake Tattoo-2001»*, які прайшоў 13-14 чэрвеня ў мінскім клубе «Рэактар», уганараваны сталічны салон татуіроўкі «Міленіум».

На фестывалі былі прадстаўленыя работы майстроў татуіроўкі з мінскіх салонаў «У Лісіцы», «Міленіум», *«Iron Brothers»*, віцебскага салона *«Kakttooz»*, гродзенскіх, брэсцкіх і іншых майстроў. Узнагароджанне пераможцаў — майстроў і ўладальнікаў татуіровак — праходзіла па чатырох намінацыях: «Лепшая мужчынская чорная татуіроўка», «Лепшая жаночая чорная татуіроўка», «Лепшая мужчынская каляровая татуіроўка» і «Лепшая жаночая каляровая татуіроўка». Прыз за самую сексуальную татуіроўку атрымаў салон «У Лісіцы». У рамках фестывалю татуіроўкі прайшоў конкурс «Міс грудзі», у якім перамагла мінчанка Наталля Зубрыцкая.



Прадстаўнікі Малога тэатра — арганізатара фестывалю — спадзяюцца зрабіць гэтае мерапрыемства штогадовым і міжнародным.

**БелаПАН**

# Ад Венецыі да Вайшкунаў

*На ўваходзе ў майстэрню сябра творчае суполкі «Пагоня», скульптара і мастака Алеся Шатэрніка на вочы патрапляецца металічная дошка, якую б павінны бачыць не толькі ягоныя госці, але і ўсе мінчукі. Гэта шыльда мусіць вісець, паводле ейнага надпісу, на будынку, дзе была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка. Гэта збіраліся зрабіць у 1993 годзе перад І З'ездам беларусаў свету, але на дзяржаўным уладным узроўні тады нацыянальнай ідэяй да такой ступені не прасякнуліся. Наступнымі гадамі і да гэтай пары – пагатоў.*

Алесю Шатэрніку – 60 гадоў. Нарадзіўся ён у Іванаве. Не беларускім – расійскім. Туды ў 30-ых гадах на будаўніцтва Беламорканала быў высланы дзед скульптара, які працаваў у Мінску галоўным рэвізорам Лібава-Роменскай чыгункі. Як пра першае прыцягненне да радзімы Алесь Шатэрнік згадвае 1944 год, калі яны разам з маці слухалі паведамленне пра вызваленне Беларусі.

— Як скончылася вайна, мы паехалі сустракаць з фронта бацьку. Ён быў урачом і працаваў на той час у Дубне, што ў Заходняй Украіне, у крэпасці-шпіталі. Там, дарэчы, з'явіўся мой першы малюнак, які захаваўся і дагэтуль. Гэта былі круг і крыж. Гэта зараз дзеці ў пяцігадовым узросце добра малююць, а тады ж вайна, нават алоўка не было. Я не помню, што я маляваў: ці то кола матацыкла з бацькавага здымка, ці то вакно крэпасці. Дарэчы, мне потым неяк Уладзімір Арлоў расказаў, што тая крэпасць належала князю Канстанціну Астрожскаму.

У школу будучы скульптар пайшоў ужо ў Мінску. Потым былі мастацкая вучэльня і тэатральна-мастацкі інстытут.

— Я з самага дзяцінства быў антыбальшавіком. Памятаю, нас мусілі прымаць у піянеры, і бацька даў мне грошы на піянерскі гальштук. А па дарозе ў школу стаяла кнігарня, і там я ўгледзеў кніжку з казкамі Яршова, на вокладцы якой была дужа прыгожая жар-птушка. Я ўжо тады меў цягу да мастацтва і купіў гэтую кніжку з цудоўнымі ілюстрацыямі. Так у піянеры і не паступіў. Пазней мяне абмінулі таксама камсамол і партыя.

Нацыянальная тэматыка ў скульптурах Шатэрніка стала дамінантай ад самага пачатку прафесійнай творчасці. З-пад ягоных пальцаў у розныя часы з'явіліся скульптурныя выявы Уладзіміра Караткевіча, Максіма Багдановіча, Андрэя Макаёнка, Кандрата Крапівы, Якуба Коласа, Міхася Ткачова, Язэпа Драздовіча, работы на фальклорныя матывы, як «Гуканне вясны», помнікі вызвольнікам. Яны зараз на вуліцах гарадоў і мястэчак, на могілках і мемарыяльных дошках, у музеях і галерэях. Прычым не толькі ў беларускіх: шатэрнікавыя творы мае, напрыклад, Траццякоўская галерэя. А керамічная статуэтка Еўфрасінні Полацкай апынулася нават у амерыканскім Белым доме. У якасці падарунка ад скульптара яе павёз за акіян колішні прэзідэнт ЗША Біл Клінтан, які я, памятаеце, гадоў сем таму ладзіў візіт у Беларусь.

У Шатэрніка пераважае традыцыяналізм і рэалізм, але ёсць і мадэрн. Прыкладам, кампазіцыя «Танцуючыя зэдлікі», прысвечаная Нямізе і першаму заслужанаму артысту Беларусі, кіраўніку Дзяржаўнага джаз-аркестра Э.Рознеру, пацярпеламу ад сталінскай і гітлераўскай таталітарных сістэмаў.

За савецкім часам цэнзура многага не дазваляла. Многіх мастакоў, хто звяртаўся да нацыянальных тэмаў, абвінавачвалі ў «этнаграфічным нацыяналізме». Прыкладам, Рагнеду скульптар калісьці на выставе з назвай «Мы будуем камунізм» быў змушаны канспіратыўна называць «Векапомная». Рагнеду меркавалася ўзвесці ў Заслаўі да 1000-годдзя горада, аднак, са словаў Алеся Шатэрніка, дайшло да таго, што чыноўнікі нават патрабавалі гістарычную даведку з Акадэміі навук, што такая Рагнеда насамрэч існавала. Давялося скульптару займацца і Леніным. Праўда, зрабіў ён гэта арыгінальна і з меркантыльных мэтаў. Яму паведамілі, што нехта з чаргі за «Жыгулямі» з Саюза мастакоў адмовіўся ад машыны. Ёсць магчымасць купіць, але дзе ўзяць грошы? Гэтак і з'явіўся Ленін на аўто. Такім стала ўяўленнем скульптара пра той час. А ўвогуле Алесь Шатэрнік лічыць, што чалавек ператвараецца ў несвабоднага толькі са сваёй уласнай волі.

Сярод шатэрнікавых праэктаў – новыя манументальныя выявы постаці Рагнеды, а таксама партрэт Зянона Пазьняка «Звязаны анёл». Зараз ён працуе над кампазіцыяй для Полацка, пад умоўнай назвай «Крывічы».

Ужо ў сталым веку Алесь Шатэрнік пачаў пісаць, як ён сам гэта называе, паэтычныя імпрэсіі, бо, паводле яго, «Жывапіс – двухмерная прастора. Скульптура – трохмерная. Паэтычнае слова выходзіць па-за межы гэтых прастораў і набліжаецца да чацвёртага вымярэння – Боскага слова. Напачатку было слова». Вось што ён піша пра свой улюбёны занятак: «Скульптура дапамагае зразумець сутнасць святла. Святло і цень ствараюць форму. Чалавек існуе на мяжы святла і ценю...»

Гэтаксама ў сталым веку (хоць сталым сябе не адчувае: узімку нават купаецца) вядомы скульптар усур'ёз заняўся жывапісам. Усур'ёз – гэта значыць, так, каб выстаўляцца. А.Шатэрнік малюе ў імпрэсіяніцкай манеры і называе сам напаўжартам тое, што выходзіць з-пад пэндзля, «скульптурным жывапісам». Як вядома, фарба на імпрэсіяніцкіх карцінах кладзецца густа, шчодра. Мазкі выглядаюць аб'ёмнымі. Гэта пленэрны жывапіс, то бок з натуры, на прыродзе.

Нездарма А.Шатэрнік любіць падарожнічаць. Падчас нашай з ім сустрэчы ў майстэрні дзяліўся ўражаннямі ад вандровак у Парыж ды Венецыю. У Італію ён выправіўся на сваёй машыне – «шляхам Скарыны». Некалькі ягоных карцін нарадзіліся менавіта там. Што не замаляваў – зняў камерай. Напрыканцы відэакасеты паказаліся беларускія краявіды. Гэта леціішча скульптара на Балдуку ў Вайшкунах. Возера, буслянка... Шатэрнік праніклiва каментуе: «Які Парыж...».

Фота Ул.ШЛАПАКА

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

## Пад Віцебскам сабраліся байкеры

«Байкеры супраць наркотыкаў» – пад такім дэвізам ля пасёлка Малыя Лётцы пад Віцебскам 15 чэрвеня пачнецца міжнародны злёт байкераў.

Абавязкі гаспадара на злёце выканае Віцебскі мотаклуб «Жалезны Воран». Гэта навічок сярод зарэгістраваных аб'яднанняў моладзі Віцебшчыны, хаця ядро арганізацыі існуе ўжо дзевяць гадоў. Статутная мэта «Жалезнага Ворана» – развіццё мотакультуры ў асяроддзі моладзі. Уступіць у арганізацыю можна, толькі прайшоўшы выпрабавальны тэрмін, даказаўшы сваю прыхільнасць здароваму ладу жыцця і прынцыпам гонару. Старшыня праўлення клуба – трыццацігадовы энтузіяст байкерскага руху Алег Усціновіч.

Удзел у злёце бяруць каля 300 байкераў з Беларусі і суседніх рэгіёнаў Расіі. Гледачоў чакае спартовае шоу – гонкі па трасе з перашкодамі, трукавое ваджэнне матацыкла, конкурсы на самы антыкварны і самы «наварочаны» (перароблены) байк. Баі коннікаў і пешых воінаў прадставяць сябры «Жалезнага Ворана» з віцебскага клуба старажытнаславянскіх ратаборстваў «Хорс», а «металічны» гукавы антураж забяспечаць запрошаныя рок-групы з Беларусі і замежжа.

Дабрачынныя ахвяраванні ўдзельнікаў і гасцей злёту будуць перададзеныя ў дапамогу мясцоваму дзіцячаму хоспісу і фонду барацьбы са СНІДам.

**БелаПАН**

## Астрологический прогноз

### от Вероники Кудрявцевой на 18 - 24 июня

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***

**ОВЕН**. Вы способны стать гением пера. Имеет смысл в самом начале недели собрать кипу документов и успеть поставить на них необходимые подписи. Информация и посреднические услуги, поездки и переговоры занимают практически все время. Но в среду и четверг постарайтесь не иметь дело с непроверенными людьми и фактами – скорее всего, надежды не оправдаются, да и путаницы хватает.

**ТЕЛЕЦ**. «Под вас» могут быть выделены какие-то деньги, не исключено официальное выдвижение на передовые позиции. Но не стоит пока сильно обольщаться – как бы очень скоро не подставили свои же. Во всяком случае, есть элемент временной, не очень чистой игры. Друзьям – доверяй, но задумывайся и проверяй в среду и четверг. Похоже, что у вас появляется собственная копилка.

**БЛИЗНЕЦЫ**. Противостояние с соратниками или компаньонами неожиданно разрешается людьми издалека или имеющими юридический вес в ваших глазах. Вокруг вас создается поле, вовлекающее в таинственные, необъяснимые случаи полумистического характера, соприкасающее с иным миром. Встречи с влиятельными людьми и старыми знакомыми носят роковой характер.

**РАК**. Несмотря на то, что интриги могут приобрести юридический характер, Вы находитесь в относительно безопасном положении в понедельник, и этим стоит серьезно воспользоваться. В другое время даже ГАИ способно прочувствовать ваше бесправное состояние. Если вы попали в больницу, то лучше пройти все необходимые процедуры, не стремиться в бурное море жизни.

**ЛЕВ**. Благоприятным образом можно использовать подвернувшиеся вам игровые или шоу-возможности в понедельник для того, чтобы укрепить дружеские связи или обозначить себя в коллективе людей. Но в другой временной промежуток лучше не переигрывать, поскольку кто-то из официальных структур или влиятельных людей может и «обидеться». Протежируйте собственных детей, но только не в четверг и пятницу.

**ДЕВА**. Серьезно стоят задачи юридического характера, касающиеся карьеры или смены работы. Можно устроить свои дела, договориться о важном в понедельник. Рабочий коллектив – очень немаловажная деталь, есть шанс попасть в дружную команду в этот же день. Состояние духа выправляется, здоровье стабилизируется. Постарайтесь в среду и четверг не ставить диагнозы.

**ВЕСЫ**. Вы ведете себя, как ученик, который захотел стать Учителем, но авторитета для этого пока не хватает. Или же вас воспринимают как подставную фигуру в игре. В дальней поездке не исключены неясная пограничная ситуация и поведение принимающей стороны. В понедельник многое определится и оформится, и чем больше вы вовлечете в свою орбиту людей, тем лучше. А знакомство или оформление отношений в личной жизни судьбоносны.

**СКОРПИОН**. Рядом с вами проявляются сейчас те, кто, как пиявки, тянут энергию. А кто-то тянет и доходы, деньги, причем по-крупному. В этом отношении в понедельник вы можете себе «подстелить соломки», договориться о поддержке, принести радость в дом. Вот когда проявляются истинные друзья. В среду и четверг не все гости приходят с чистыми помыслами.

**СТРЕЛЕЦ**. Ожидайте важных решений начальства или вышестоящих, юридических инстанций в понедельник. А если от вас что-то зависит, то поспешите в этот день подписать коллективный договор, заключить союз, в том числе и брачный, или обсудить важные вопросы. Но похоже, что вам дадут возможность вернуться к старым формам деятельности. Осторожнее, учтите, что накануне затмения все решения обжалованию не подлежат.

**КОЗЕРОГ**. Хотя от вас мало что зависит из-за закулисных интриг и даже чисто объективных препятствий, обсуждайте с власть имущими в понедельник все, что можно обсудить. Вы укрепляете свои позиции на работе. И в коллективе к вам относятся благосклонно, только если вы не совершите ошибку в среду и четверг с кем-то из коллег. Только если пожилой человек дарует возможность заработка – не отказывайтесь.

**ВОДОЛЕЙ**. Одному вашему другу или даже целой команде предстоит юридический процесс, и от ваших усилий в понедельник много что зависит. Пригодится талант оратора или писателя, действуйте, иначе могут обвинить во всех грехах. Не исключено, что кто-то вдруг влюбляется в хорошо знакомого или старшего по возрасту человека, и тогда это судьба. К тому же, могут быть и дети.

**РЫБЫ**. Кто-то, кто находится далеко или «сидит высоко», вас подставляет. Вы способны разузнать много полезного на этот счет в понедельник. А кроме того, кое-кто, задумываясь о лицензии, учебе за границей, может получить «добро» или обнадеживающие сведения из соответствующих инстанций. Не спешите сразу этим воспользоваться в ближайшие две недели, когда также возрастает опасность инсультов и кризов.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1724 Нумар падпісаны ў друк 17/06/2001 (15:00) Наклад – 9.050